# Іскры Ільіча

## № 8





НАША ЗАДАЧА—ДОБРА ВУЧЫЦЦА!

# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

№ 8

Двухтыднёвая часопісь для меншых дзяцей

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

1932

Год выданьня 4


# ПІАНЭРСКІ МАРШ

ЗАПЯВАЛЫ



ШЫ-РАЙ, ШЫ-РАЙ, ДЗЕ-ЦІ, ШЫ-РАЙ ДАЙ-ЦЕ



ШАГ. З НА-МІ ЛЕП-ШЫ ЎСЬВЕ-ЦЕ ПІ-А-НЭР-СКІ

ХОР. ПРЫПЕЎ



СЬЦЯГ. ГЭЙ, ВЫ-ХОДЗЬ, А-ТРА-ДЫ, ЎСЕ НА НА-ША СЬВЯ-ТА




ДРУЖ-НА ЎСЕ ША-ГАЙ-ЦЕ Ў ТАКТ! ГАЙ-ЦЕ Ў ТАКТ!

Шчыра за навуку
Возьмемся цяпер.
Скора камсамольцам
Будзе піанэр.

Прыпеў.

Шырай, шырай, дзеці,
Шырай дайце шаг!
З намі лепшы ў сьвеце
Піанэрскі сьцяг.

Прыпеў.


Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25.

# 23 мая—дзесяцігадовы юбілей піянэрскай арганізацыі.

## Вітаем юных ленінцаў-піянэраў з іх слаўным юбілеем!



# ЗАДАЧА ПІАНЭРАЎ І ЎСІХ ДЗЯЦЕЙ— ДОБРА ВУЧЫЦЦА

**23 мая—сьвята піанэраў. У гэты дзень споўніцца роўна 10 год, як стварылася піанэрская арганізацыя. Гэта сьвята ня толькі піанэраў,—гэта сьвята і акцябрат. Піанэры — нашы старэйшыя таварышы. Мы павінны вучыцца ў піанэраў, як працаваць. Мы павінны рыхтавацца стаць добрымі піанэрамі-ленінцамі.**

**Піанэры за гэтыя гады правялі і праводзяць вялікую работу. Яны дапамагаюць у рабоце старэйшых. Яны— актыўныя ўдзельнікі сацыялістычнага будаўніцтва. У школе піанэры паказваюць прыклад другім дзецям— як трэба добра вучыцца.**

## Нашы варштаты—драўляныя парты

ЦК Камуністычнае партыі сказаў, што ўсе піанэры, вучні і акцябраты яшчэ дрэнна вучацца. Мы павінны лепш вучыцца.

І зараз самая **галоўная задача піанэраў і ўсіх дзяцей—добра вучыцца.**

Вучыцца ў школе па кніжках і знаёміцца на вытворчасьці з тым, што вывучаецца ў школе. Дзеля гэтага кожная школа трымае сувязь з пэўным заводам, калгасам, машына-трактарнай станцыяй і інш. У школах ёсьць свае рабочыя пакоі, дзе вучні на практыцы знаёмяцца з тым, што вывучаецца. Толькі такая школа можа падрыхтаваць добрых будаўнікоў сацыялізму.

Піанэры першага зьвяна 3 атраду Менскай базы цягі вучацца ў 6 клясе 25 ФЗС.

**БУДАЙ, ПАГОЦКАЯ, НЯЎЗОРАВА, МАРЫНІНА** — піанэры І зьвяна. Яны займаюцца ў аднэй брыгадзе. Гэтыя піанэры першыя ў школе заключылі ўмову на спаборніцтва з другой брыгадай. Яны ўзялі на сябе абавязкі:

не прапускаць заняткаў і не пазьніцца на лекцыі;
добра рыхтавацца да лекцый;
у час здаваць заданьні;
быць дысцыплінаванымі і акуратнымі ва ўсім вучнямі
своечасова ўносіць грошы на пазыку „3-ці рашаючы“
І гэтая брыгада з гонарам выконвае ўзятыя абавязкі.
Такіх прыкладаў работы піянэраў мы маем вельмі многа.

**Усе 45 хвілін—на вучобу!**

Лекцыя ў школе цягнецца 45 хвілін. Піянэры змагаюцца за тое,—

каб ніводная хвіліна ня трацілася дарма,

каб вучні не пазьніліся на лекцыі,

каб адразу пасьля званка ўсе вучні былі на лекцыі і ўважліва слухалі настаўніка.

**Піянэры змагаюцца за сьвядомую дысцыпліну.**

Добра наладзіць вучобу ў школе можна толькі тады, калі

усе вучні будуць старацца добра вучыцца,

уважліва слухаць, што гаворыць настаўнік,

не перашкаджаць другім, памагаць сваім адстаючым таварышом.



МЫ ВУЧЫМСЯ БРЫГАДАМІ



МЫ ПАВІННЫ СТВАРАЦЬ НОВУЮ ПАЛІТЭХНІЧНУЮ ШКОЛУ

Трэба, каб кожны вучань сьвядома адносіўся да вучобы.

Піанэры змагаюцца за тое, каб у школе ня было ніводнага адстаючага вучня.

**Будай, Пагоцкая, Няўзорава, Марыніна**—добра вучацца. Але яны—піанэры. Таму яны дапамагаюць у вучобе сваім таварышом, якія вучацца горш.

## Усе павінны добра вучыцца

Піанэры вучацца працаваць па-новаму — калектывам. Яны вывучаюць заданьні брыгадамі. У брыгадзе ёсьць горшыя і лепшыя вучні. Адзін другому дапамагаюць.

— Калі ў нас не хапае падручнікаў,—расказвае адна піанэрская брыгада,—альбо каторыя вучні не разумеюць таго ці іншага пытаньня, дык склікаецца збор брыгады. На зборы мы калектыўна вывучаем гэтыя заданьні. Калектыўна значна лягчэй працаваць.

Піанэры ня толькі самі змагаюцца за лепшую вучобу. Піанэры—нашы старэйшыя таварышы. Яны дапамагаюць і акцябратам лепш наладзіць вучобу.

Вось піанэрка Будай. Яна важатая групы акцябрат. Дапамагае вучыцца акцябратам малодшых груп. 3-я група акцябрат, дзе яна важатая, першая заключыла сацыялістычную ўмову на лепшую вучобу з 2-ой групай.

### АКЦЯБРАТЫ!

**Кожны з вас рыхтуецца быць добрым піанэрам. Мы будзем піанэрамі, пасьля камсамольцамі.**

**Мы павінны наладзіць працу так, каб лепш вучыцца, каб у далейшым стаць добрымі піанэрамі.**

**Мы разам з піанэрамі будзем сьвяткаваць дзесятую гадавіну піанэрскай арганізацыі.**

**Кожны акцябронак павінен узяць прыклад з лепшых піанэраў—ударнікаў вучобы.**

**Будзем дабівацца таго, каб усе акцябраты сталі ўдарнікамі вучобы.**

**Каб кожны акцябронак змагаўся за сьвядомую дысцыпліну.**

**Каб кожны акцябронак дапамагаў вучыцца свайму таварышу.**

**Гэта будзе наш лепшы падарунак піанэрам да дзесятай гадавіны іх арганізацыі.**

# РЫГОРАВА грамата




**Апавяд. А. ПАЛЬЧЭЎСКАГА**
**Малюнкі ЗДАНОЎСКАЙ**

За вокнамі школы гудзеў вецер. Восень дажывала апошнія дні. Вячэрні змрок закрываў зямлю, ціснуў яе. Толькі палосы сьвятла ад лямпаў перасякалі то сям, то там вуліцу.

Вось у такі час у Падсасоньні адбываўся важны збор піанэрскага атраду.

Уважліва слухалі піанэры дакладчыка ад камсамольскай ячэйкі. А ён, растлумачыўшы першае пытаньне, сказаў:

— Цяпер абдумайма, пагаварэм гуртам, як лепей нашаму атраду справіцца з пастаўленымі задачамі.

Старшыня сходу, вучань 7 групы, устаў пасьля гэтых слоў дакладчыка, агледзеў прыціхшых піанэраў і сказаў:

— Хто мае пытаньне? Ці можа выказацца хто хоча?

Антось Галейша першы падняў руку.

— Пытаньне, ці выступіць хочаш?

— У мяне прапанова.

— Хай дае прапанову,—пачуліся галасы з-за скамеек.

Антось разгарнуў свой сшытак і распачаў:

— Першае, я прапаную ўсяму нашаму атраду ўключыцца ў практычную работу. Дагэтуль толькі некаторыя піянэры працавалі на лікпунктах, астатнія ня былі ўцягнуты ў гэту работу.

— Правільна.

— Усім трэба ўзяцца,—падтрымалі галасы. Гэта абрадавала Антося і ён яшчэ з большым захапленьнем працягваў:

— Нам трэба ўзяцца за навучаньне бацькоў. Калі яны ня хочуцьісьці на лікпункты, дык дома трэба вучыць іх.

— А калі бацькі пісьменныя?

— Дык дзядзьку, цётку, суседа навучай,—адказаў на Ігнатаву заўвагу Міколка.

Вось тады толькі нашы піянэры будуць змагацца за суцэльную пісьменнасьць, калі кожны будзе ўключаны ў такую важную справу,—кончыў Антоська.

— Здорава ты кажаш,—засьмяяліся некаторыя вучні ад такой прапановы. Але Антоська ня даў разгарнуцца:

— Я сур'ёзна кажу.

Старшыня сходу заклікаў да парадку.

— Бяз сьмеху адно. Ня згодзен з прапановаю—кажы сваю.

— А як бацька не захоча, дык што рабіць?—спытаў Тодарка.

— Ня думай, што нашы бацькі такія няпрыступныя.

— Ім растлумачыць трэба, даказаць карысьць пісьменнасьці.

— Яны ад цемнаты свае могуць супраціўляцца, а як зразумеюць, дык згодзяцца,—гаварылі адзін перад адным піянэры.



Жвава прайшоў збор атраду. Згадзіліся ўсе на адным:—Кожны піанэр навучае аднаго-двух няпісьменных.

* * *

Шмат клопату набраўся Антось, пакуль навучыў бацьку пісаць і чытаць. А доўга Рыгор не паддаваўся на сынавы ўгаворы. Маці, дык тая адказвалася ўсё няхваткаю часу, а бацька, дык той іначай гаварыў:

— Малы ты яшчэ сам, а нас вучыць хочаш. Не навучыліся ў тваіх гадох, дык цяпер пагатоў нічога ня будзе.

— Будзе, татка. Мы нагонім, сышчам тое, чаго вы некалі ня ўзялі, чым вас у маіх гадох пакрыўдзілі,—захвочваў Антось і пачынаў чытаць сам лемантар, прызначаны для бацькоў. Ён чытаў адтуль і растлумачваў прачытанае, а сам ду-

маў: „Абы трохі заахвоціць, а тады я не адступлюся ад іх“.

Некалькі вечароў абыякава глядзеў Рыгор на сынава стараньне, а аднойчы ўсьміхнуўся ледзь заметным сьмехам, падышоў блізка да Антося ды кажа:

— Пакажы мне, як ты разьбіраеш гэтыя значкі? Што гэта азначае круглая літара.

— Гэта О.

— А тая з перагародкаю пасярэдзіне?

— А гэта Н.

— Скажы ты, як штучна выдумана ўсё!—пакруціў галавою Рыгор.

— Бярыся вот вывучаць гэтыя штукі,—заўважыла Мар‘яна.

— Трудна, мусіць, старому ўцяміць будзе.

— Ды не. За два-тры вечары вывучыце літары, а там лёгка пойдзе,—падхапіў матчыны словы Антоська.

— Ды чаму, абы хацеў, дык навучыцца. Ён-жа вечарамі час мае,—дадала Мар‘яна.—А як вывучыш ты літары, дык і мне будзеш паказваць.

... І паступова, неўзаметку для самога сябе, пачаў уцягвацца Рыгор у навуку. А ўсьлед за ім, назіркам, нясьмела, узяла ў рукі лемантар і Мар‘яна.

*
* *

Вялікае сьвята для ўсіх працоўных—Першае мая. Поўны нардом найшло Падсасонцаў сьвяткаваць гэты дзень. У дзень яны ўсе хадзілі са сьцягамі па вуліцы, а цяпер сабраліся на ўрачысты вечар. Паселі на лаўках—чакаюць пакуль заслону падымуць на сцэне.

Для Рыгора гэты дзень—двайное сьвята. Учора ён упяршыню за сваё жыцьцё сам прачытаў:

**„Да Першага мая Савецкая Беларусь стала краінай суцэльнай пісьменнасьці“.**



Рыгор прачытаў гэты кароткі, але важны сказ, падняў галаву і задумаўся. Праз момант паклікаў Антося і спытаў:

— Скажы мне, сынок, гэта ўся Беларусь стала пісьменнай?

— Уся. Я-ж вам раней гаварыў, што мы ідзем да гэтага, што ўсе працоўныя змагаюцца за пісьменнасьць, а вы ўсё сьмяяліся, ня верылі.

— Калі-ж неяк дзіўна вельмі было,— адказаў на гэтыя словы сына Рыгор.

... З радасным тварам сядзіць сёньня Рыгор на сцэне. Ён аглядае пры-

сутных, а ў самога мільгаюць думкі: „Я пісьменны чалавек. Мне няма ніякае цяжкасьці прачытаць вось гэты лёзунг“, і ён чытае белыя літары на чырвоным палатне, што разьвешана на сьцяне:

**„Няхай жыве Першае мая—сьвята працоўных“.**

Але ў гэты час настаўнік успамінае яго прозьвішча Рыгор паварочвае галаву і чуе:

— Адзін з лепшых, што ліквідаваў дома сваю нявпісьменнасьць, Рыгор Габрылёнак, атрымлівае грамату і прэмію — гадавую падпіску на „Газэту для малапісьменных“.

— Ды я што? Ці варта мне?—чырванее Рыгор, нясьмела бяручы ў рукі грамату. Гэта ўсё праз майго сына навучыўся я чытаць і пісаць. Ён мне, можна сказаць, вочы адкрыў. Каб такія піанэры былі ў кожнага бацькі як мой, дык я нічога-б больш не хацеў.

Яго гаворку перабівае настаўнік:

— Расьпішэцеся,—падае ён сьпіс.

Рыгор бярэ карандаш, насьліньвае яго і першы раз у сваім жыцьці заместа крыжыкаў падпісвае імя і прозьвішча на дзелавых паперах.

Гукі моцных воплескаў пракаціліся па залі. А Антоська стаіць каля сцэны, глядзіць то на бацьку, то на сваіх таварышоў і радасьцю сьвецяцца яго вочы.

---

**У КРАІНЕ САВЕТАЎ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ НЯГРАМАТНЫХ!**

# БУДЗЕМ ЯК ЛЕНІН ЖЫЦЬ І ЗМАГАЦЦА



## ЛЕНІН— РЭВАЛЮЦЫЯНЭР*)

Гімназію Валодзя скончыў з посьпехам. Пасьля гімназіі паступіў у вышэйшую школу—унівэрсытэт у г. Казані. Там ён вучыўся на адваката. Вучыцца ў сталіцах Ільлічу было забаронена, як брату Аляксандра Ільліча. Яго старэйшы брат Аляксандр зрабіў замах на цара. За гэта яго павесілі.

Даведаўшыся пра ўчынак брата, Ільліч сказаў:

— Ён ня мог зрабіць іначай.

Але Ільліч не пайшоў сьледам свайго брата. Ён зразумеў, што такое змаганьне ня дасьць добрых вынікаў. Заб'еш цара— на яго месца пасадзяць другога. Трэба падрыхтаваць працоўных да рэвалюцыі. Трэба змагацца з усім царскім парадкам, з буржуазіяй і панамі.

З унівэрсытэту Ільліча хутка выключылі за ўдзел у забастоўцы.

Паліцыя арыштавала яго.

— Што вы бунтуеце? Перад вамі сьцяна,—сказаў спакойна Ільлічу паліцэйскі чыноўнік.

— Сьцяна ды спарахнелая — крані і разваліцца, — сьмела адказаў малады рэвалюцыянэр.

Так, сьцяна царызму спарахнела. Ільліч гэта ведаў і ведаў, што гэтую сьцяну разваліць толькі рабочая кляса.

---

*) Пачатак глядзі ў № 5.

У высылцы Ільліч вучыўся самастойна. Ён упарта вывучаў творы Карла Маркса і другіх рэвалюцыянэраў. Ён рыхтаваўся да вялікае работы—арганізаваць працоўных на змаганьне з царызмам, паказаць ім правільную дарогу.

Пасьля высылкі Ільліч жыве ў Самары, Казані, потым у Пецярбурзе. Усюды ён працуе сярод рабочых.

Цяжка было працаваць. Жандары сачылі за кожным шагам. Часта прыходзілася мяняць прозьвішчы, хавацца.

І ў самы разгар работы, якую праводзіў Ільліч, яго арыштавалі. На гэты раз садзяць ў турму. Гэта было ў 1895 г.

Ільліч і ў турме не пакідае свае работы. Ён многа чытае, піша кніжкі для рабочых, адозвы. Рознымі спосабамі, праз галовы жандараў, наладжвае сувязь з сваімі таварышамі.

Ільліч і ў турме рыхтуецца да вялікага змаганьня.

Аднаго разу да Ільліча ў турму зайшла яго сястра. Яна парадавала Ільліча, што яго хутка выпусьцяць.

— Чаму так скора?—жартуючы адказаў Ільліч.—Я яшчэ не падрыхтаваўся.

І Ільліч сапраўды рыхтаваўся. Зьбіраў моцную партыю, гуртаваў рабочых.

Ільліч не шкадаваў ні сябе, ні свае сілы для справы вызваленьня.

---

**Юныя ленінцы—піанэры і акцябраты!**

**У дзень дзесятай гадавіны піанэрскай арганізацыі, вы павінны праверыць сябе —**

**Як вы выконваеце заветы Ільліча?**

**Як вы выконваеце пастанову ЦК партыі аб школе?—Ці добра вы вучыцеся?**

**Мы ўсе павінны добра вучыцца, каб быць сапраўднымі ленінцамі.**

# УДАРНІКІ ПЕРАМАГЛІ ДНЯПРО

## Самая вялікая ў сьвеце плаціна на Дняпры

## П А Б У Д А В А Н А

Больш за чатыры гады змагаліся рабочыя—ударнікі з Дняпром. Ім у гэтай рабоце дапамагаў увесь Савецкі Саюз.

І вось нядаўна ўсе нашы газэты надрукавалі радаснае паведамленьне:

— Плаціна на Дняпры пабудавана. 1-га мая будзе пушчана магутная Дняпроўская электрычная станцыя. Работа будзе скончана за 6 месяцаў раней вызначанага часу.

1-е мая ў нас асаблівае сьвята. Мы сьвяткуем міжнароднае сьвята працоўных і сьвята новай вялізарнай перамогі—перамогі над Дняпром.

Тысячы лепшых ударнікаў паедуць у гэты дзень дэлегатамі на ўрачыстае сьвята на Дняпры.

Што дасьць нашай краіне гэта новая перамога?

З гэтага часу ўся сіла вялізарнай ракі Дняпра будзе служыць на карысьць сацыялістычнага будаўніцтва.

Сіла Дняпра будзе здабываць электрычнасьць для дзесяткаў фабрык і заводаў, для соцень магутных бліжэйшых калгасаў.

**Электрычнасьць** — вось за што змагаліся ўдарнікі з Дняпром.

Нідзе ў сьвеце няма такой магутнай электрычнай станцыі, як Дняпроўская. Сіла гэта станцыі — гэта сіла 800 тысяч коняй. Гэта сіла, якая заменіць 36 мільёнаў чалавек!

**Дзеці, папрасеце настаўніка, каб ён вам расказаў усё дакладна аб Днепрабудзе, як здабываецца электрычнасьць і іншае.**

# Вайна з Дняпром

Вер. А. МАРШАКА.

Малюнкі ПАШКЕВІЧА.

Чалавек сказаў Дняпру:
— Я сьцяной цябе запру.

Будзеш падаць
Ты з вышыняў,
Будзеш рухаць
Ты машыны.

— Не,—вада сказала
людзям, —
Ня было таго й ня будзе.

І вось у рэчцы зьмешчана
Жалезная сьцяна.

І вось Дняпру абвешчана
Вайна, вайна, вайна.

На бой ідзе
Пад'ёмны кран—
Дваццацітонавы
Гігант.
Наперад
Выцягнуў руку—
Чыгунны молат
На круку.

За ім
Сьвідроўшчык
Сандэрсон.
На трох нагах
Трасецца ён.
Лязо
У руцэ яго зьвініць
І без прамаху
Б'е ў граніт.

Вось экскаватар
Мчыцца ў бой,
Пясок ён рые
Галавой.
І хмарай
Носіцца за ім—
Агонь
І пара!
Пыл
І дым.

Там, дзе гойдаліся лодкі —
Завярцеліся лябёдкі.

Дзе шумеў рачны чарот —
Разьяжджае параход.

Дзе гулялі ўчора рыбы —
Дынаміт ірве там глыбы.

На Дняпры сігнал зіяе —
Левы бераг заяўляе:
Загатовілі бэтону
Трыста трыццаць тры вагоны,
Дзевяцьсот кубоў зямлі
Мы ўжо выкапаць змаглі.

Просім зараз
Даць адказ:
Як ідзе работа
Ў вас?

За Дняпром сігнал
зіяе —
Правы бераг заяўляе—
Рапартуе
Правы бераг:
Кожны молат,
Кожны Дзеррык,
Кожны лом
І кожны кран
Выпаўняюць
Прам-фін-плян.

Дні
І ночы,
Дні
І ночы
Бой з Дняпром
Вядзе рабочы.

І ўзьнімаюцца з ракі
Крутабокія быкі.
Ля быкоў бушуе
пена,
Ды вада ім па калена.

Чалавек сказаў
Дняпру:
— Я сьцяной цябе
запру,



ЭКСКАВАТАР

Каб,
Спадаючы
З вышыняў
Хвалі
Шпаркае ракі
Хутка
Рухалі машыны
І вазілі цягнікі.

Каб
Мільёны
Поўных
Бочак
Пераможанай
Вады
Здабывалі
Для рабочых
Многа хлеба
І руды.

Каб плугі
Па чорназёме
Электрычнасьцю
Вяло,
Каб
На вуліцы
І дома
Было
Увечары
Сьвятло.

Дні і ночы,
Дні і ночы
Ваяваў з Дняпром
Рабочы.

І магутная плаціна
Шыр Дняпрову
Загаціла.
За турбінаю
турбіна,
За машынаю
машына
Завярцеліся
Няспынна.

І мільёны
Поўных бочак
Пераможанай вады
Здабываюць
Для рабочых
Многа хлеба
І руды.

Пераклад А. ЯКІМОВІЧА



# ЯКІХ СЛОЎ ТЫ НЕ ЗРАЗУМЕЎ?

1. **Пад'ёмны кран**

Прылада для пад'ёму вялікіх грузаў. Ёсьць пад'ёмныя краны вельмі вялікай сілы. Такі кран можа падняць угору цэлы паравоз і пераставіць яго на патрэбнае месца.

2. **Сьвідроўшчык Сандэрсон**

Часта патрэбна бывае разбурыць цэлую каменную гару, альбо прабіць у цьвёрдай зямлі дзірку на сотні мэтраў. У такіх выпадках бяз сьвідроўшчыка не абыдзешся.

Сьвідроўшчык — прылада, пры дапамозе якой можна прабіць любы каменны грунт. У прабітыя дзіркі закладваюць дынаміт, падпальваюць яго і гара, альбо камень ад моцнага выбуху разрываецца на часткі.

3. **Экскаватар**

Гэта такая машына. Яна капае зямлю і пераносіць на патрэбнае месца. Складаецца экскаватар з асновы — павозкі, на якой зьмешчаны машыны, і каўша. Машыны працуюць і ад гэтага коўш паварачваецца, куды патрэбна. Коўш можа выкапаць адразу 60 пудоў зямлі і перакінуць яе на другое месца.

Падлічэце самі, колькі гэта машына можа замяніць рабочых рук?

Праверце, колькі зямлі можна выкапаць за адзін раз простаю рыдлёўкаю?

Параўнайце атрыманыя лічбы між сабою.

4. **Дзеррык**

Машына, якая ўжываецца на пабудовах для земляных работ.

# Дзень лесу



Пры нашай школе ёсьць гарод. Гарод пусты. Ніводнага дрэўца. Гэтай вясною мы парашылі пасадзіць на школьным гародзе сад.

Мы абмеркавалі гэта разам з аграномам. Аграном расказаў нам, як пасадзіць сад. Мы так і зрабілі.

Перш-наперш мы вылучылі брыгаду з 3-х вучняў — Паўліка, Грышкі і Сьцёпкі. Яны езьдзілі ў саўгас „Чырвоны Шлях“. Там дасталі маладых дрэўцаў для пасадкі саду.

Потым мы працавалі ўсе разам.

Гэта было ў „Дзень лесу“, 5-га мая. Зранку настаўніца расказала нам пра тое, чаму мы праводзім дзень лесу, якую карысьць дае нам лес.

— Лес — наша багацьце. Бяз лесу мы ніяк ня можам абыйсьціся.

Калі мы пачалі лічыць, дык вышла, што амаль уся наша школа і ўсе прылады зроблены з дрэва.

Але мала таго, настаўніца расказала нам і яшчэ цікавыя рэчы. Лес ідзе ня толькі на пабудовы. З лесу можна вырабляць паперу для сшыткаў, газэт, кніг. З дрэва можна вырабляць нават і вопратку і шмат чаго іншага.

Сады даюць нам смачныя плады, яны ўпрыгожваюць сялібы, аздараўляюць паветра.

Мы павінны як мага больш садзіць лесу, садоў.

Пасьля гэтай гутаркі мы пачалі работу. Свой гарод разьбілі на пэўныя, роўныя дзялянкі. Выкапалі ямкі ў ½ мэтра шырыні і ў 1/2 мэтра глыбіні. Потым засыпалі гэтыя ямкі зямлёю. Чорную зямлю (верхнюю) палажылі на дно, а сьветлую (з дна ямкі) на верх.

Кійком парабілі ў сьвежай зямлі дзіркі і асьцярожна пасадзілі дрэўцы з карэньчыкамі. Пасьля гэтага шчыльна абсыпалі зямлёю і зрабілі паліўку. Праз некалькі год пры нашай школе вырасьце сад.

Акцябраты калгасу „Бальшавік“.



# БЯЗ ПРАЦЫ, БЯЗ ХАТЫ, БЯЗ ХЛЕБА



МАЛЮНАК МАСТАКА Т. СТЭЙНЛЕНА

**Рабочыя і іх дзеці ў буржуазных краінах галадаюць. Мільёны беспрацоўных вымушаны жабраваць і паміраць з голаду.**

**Дапаможам галодным дзецям працоўных буржуазных краін!**

**Дзеці, пішэце, што вы зрабілі для дапамогі сваім замежным братом?**





**У ВОЛЬНАЙ КРАІНЕ САВЕТАЎ УСЕ ПРАЦОЎНЫЯ ДРУЖНА КАЛЕКТЫЎНА БУДУЮЦЬ НОВАЕ ЖЫЦЬЦЁ.**

**НА МАЛЮНКАХ:** зьверху—дзеці кітайскага калгасу на Віцебшчыне; зьнізу—кітаец-калгасьнік.

Гэты нацыянальны кітайскі калгас арганізаваўся ў 1928 годзе. Зараз ў калгасе знаходзіцца 14 кітайскіх сем'яў.

# ЧАМУ ГЭТА ПАТРЭБНА?



Ён працуе на тачыле. У яго адзеты акуляры, хоць рабочы і так добра бачыць без акуляраў. Чаму ён адзеў акуляры?



У гэтым маторы ток вялікай сілы. Ток можа забіць чалавека. Чаму матор паставілі за агарожай?




Гэту аптэчку наладзілі на заводзе піянэры. Навошта на заводзе патрэбна аптэчка?

# ШПАКОЎНЯ

**ВЕРШ ДЗЯТКОРА**
**Б. КЕДАЛАВА**



Прышла вясна.
Растаў сьнег белы.
Сьпяваюць птушкі
Зычным галаском.
Ўжо на сонцы
Заблішчэлі
Узгоркі залатым пяском.
У гэткі дзень,
Прыгожы і вясёлы,
Прыбег Янук
Пасьля заняткаў
З школы.



І тут адразу
Пайшла работа:
Шпакоўню
Янка наш будуе.
Знайшоў ён дошку
Каля плоту—
Пілуе, стружа і габлюе.
І праз гадзіну
Зусім гатовая
Шпакоўня добрая стаіць:
Яка вялікая і новая—
Тут птушкам
Добра будзе жыць.

# Млын з музыкай



З дошчак зрабеце хатку, як паказана на малюнку. Цяпер пастаўце яе на слуп і прымацуйце цьвікам так, каб хатка магла вольна круціцца.

Зрабеце вось з крыльлямі і ўстаўце яе ў дзіркі з аднаго і другога боку хаткі. Усярэдзіне блізка восі нацягнеце струны. Прымацуйце іх канцы да сьценак хаткі цьвікамі (глядзі малюнак у разрэзе). Цяпер у вось уваткнеце пер'і (курыныя, гусіныя). Калі вось пачне круціцца, пер'е будзе чапляцца за струны—і млын зайграе. Зрабеце ззаду млына хвост, каб ён сам станавіўся супроць ветру.

# ПАДУМАЙ







**ЦІ ЎМЕЕШ ТЫ МАЛЯВАЦЬ?**

**Паглядзі, як проста і лёгка можна намаляваць птушку, парася рыбку.**

**А цяпер паспрабуй сам намаляваць такія і другія малюнкі.**

**ЗАГАДКІ**

1. Сем кажухоў мае, а мерзьне.
2. Ня шуміць, ня гудзе, а высока ўгору ідзе.
3. Ні зьвер, ні чалавек, а крыкні — словы паўторыць.
4. Якую ваду можна насіць у рэшаце?

**МАНАГРАМА**

З „В“—на ранах прыкладаюць.
З „Л“—на дзірках нашываюць.
З „Т“—так бацьку завуць.
З „Х“—там людзі жывуць.
У гэтай манаграме канчаткі павінны быць аднолькавыя.

**Загадкі, зьмешчаныя ў гэтым нумары, прыслалі: Гаўрылаў М. (Прапойскі раён) і Дукорскі А. (Пухавіцкі раён).**

**ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“**

**Рэдактары: Л. РУСАКОВА, А. ЯКІМОВІЧ.**

ЦАНА АСОБН. № 18 КАП.



# Прыгоды натураліста ў школе










Друкарня імя Сталіна Зак. № 970. 4000 экз. Уп. Галоўлітбелу А—5